# ЛУКАШ КАЛЮГА

Лукаш Калюга (сапраўднае імя — Вашына Канстанцін (Кастусь) Пятровіч), празаік і перакладчык, нарадзіўся 27 верасня 1909 г. у вёсцы Скварцы (цяпер Дзяржынскі раён Мінскай вобласці) у сям'і заможнага селяніна Пятра Мікалаевіча Вашыны.

Восенню 1911 г., у дваццаць шэсць гадоў, памірае маці Кастуся Вольга Вашына, але сірочая доля абмінула хлопца: «За маці стала бацькава сястра (Марыя Мікалаеўна Вашына. — ***Л. М.***), незамужняя, якая ўзялася даглядаць малое. А калі памёр і бацька (у 1924 г. — ***Л. М.***), дык у прымы да цёткі прыстаў брат Кастусёвай памерлай маці, Уладзімір Івашын»*.

«Калі Кастусю споўнілася сем гадоў, бацька павёў яго ў Дабрынёўскую пачатковую школу, і там настаўнік быў здзіўлены хатнімі ведамі хлопчыка... Яму прыйшоўся даспадобы прагны да навукі Кастусь... і таму ён доўжыў заняткі з хлопцам дома»†.

У часы польскай і нямецкай акупацыяў, Грамадзянскай вайны ніводная школа ў акрузе не працавала. Зноў вучыцца Кастусь пачаў толькі ў 1921 г. у Койданаўскай (потым Станькаўскай) беларускай школе-сямігодцы. Пачынаўся перыяд гэтак званай «беларусізацыі» (1920—29), перыяд «беларускага рэнесансу» (фраза Уладзіміра Сядуры), і «такім парадкам, школы не беларускай (расейскай ці польскай) [Кастусь] зусім не праходзіў...”

Будучы вучнем апошніх класаў гэтае школы, Калюга захапляецца вельмі пашыранай тады краязнаўчай працай, пачынае запісваць народныя песні і іншыя фальклорныя творы свае мясцовасці, і асабліва — словы і звароты народнае мовы. Назбіраныя матэрыялы адсылае ў Інстытут беларускай культуры (папярэднік Беларускае Акадэміі навук) у Менск, дзе яны спатыкаюць высокую ацэнку як лепшыя з прысыланых у Інстытут матэрыялаў, як з гледзішча зместу і мовы, гэтак і з боку дакладнасці і акуратнасці запісу. На жаль, аднак, Калюгавы матэрыялы не паспелі пабачыць свету ў друку да часу славутага “змагання з беларускім нацыянал-дэмакратызмам”‡...

Скончыўшы сямігодку (1925), Кастусь яшчэ амаль год заставаўся ў вёсцы — дапамагаў дзядзьку па гаспадарцы, даглядаў малодшых за сабе дзядзькавых сыноў, але ў наступным годзе, па парадзе свайго былога настаўніка, ён усё ж “паехаў паступаць у

---

* З прадмовы Я.Лецкі да кн.: Калюга Л. Творы. Мн., 1992. С. 5.

† Гінтаўт Ф. Па слядах дзвюх знічак. Маладосць. 1986. № 12. С. 140.

‡ З прадмовы Склюта Р. (А.Адамовіча) да кн.: Калюга Л. Нядоля Заблоцкіх. Мюнхен, 1954. С. 5.

Магілёўскі пэдтэхнікум і стаў яго студэнтам (увосень 1926 г. — ***Л. М***.). Але там не засядзеўся — пацягнула ў родную вёску… і праз месяц ён вяртаецца…, займаецца самаадукацыяй, многа чытае… Гартаючы старонкі “Чырвонага сейбіта”, бачыць, што там друкуюць вершы і апавяданні вясковыя хлопцы. І тады ў яго ўзнікла думка паспрабаваць напісаць [самому]… «Выйшлі на цаліну» — так назваў Кастусь першае апавяданне (1926) пра тое, як беззямельныя пачынаюць будавацца на цаліне»[§]. Гэты твор Кастусь паслаў у «Чырвоны сейбіт», але ў № 5 дадатку ў раздзеле «Паштовая скрынка» прачытаў такі адказ:

*Лукашу Калюгу. «Выйшлі на цаліну» — мы друкаваць не будзем. Тэма цікавая, але вы вельмі агульна да яе падышлі. З вашай манеры пісаць відаць, што ў вас ёсць літаратурная здольнасць. Прысылайце больш матэрыялы»*[**].



Калюга Л. (Вашына К.).

[§] Гінтаўт Ф. Па слядах дзвюх знічак. Маладосць. 1986. № 12. С. 140.

[**] Такі адказ атрымаў не толькі Л.Калюга. Далей чытаем: «Юрку Лявоннаму. «Ой, чагосьці» — не друкуем за ўпадачны настрой гэтага верша».

У 1926 г. Л.Калюга ўсё ж пачаў друкавацца ў папулярнай тады газеце “Беларуская вёска” як “звычайны карэспандэнт” (вяскор) [††].

У чэрвені 1927 г. К.Чорны змяшчае ў «Чырвоным сейбіце» першае апавяданне Л.Калюгі «Вясна»[‡‡] (творы Л.Калюгі, надрукаваныя пад псеўданімам Кастуся Палявецкага, не знойдзены), у якім ужо з першых радкоў проза ператвараецца ў паэзію. Праз паўгода, у студзені 1928 г., таксама ўбачыла свет і апавяданне «У Калянках»[§§]. Абодва творы былі пазначаны: “Вёска Скварцы, Меншчына”. Неўзабаве, па прапанове таго ж К.Чорнага, Л.Калюга пераязджае ў Мінск і пачынае працаваць у «Чырвоным сейбіце».

Паказанні Л.Калюгі ў НКВД (стыль і арфаграфія арыгінала захоўваюцца):

*Кузьма Чорны помог мне войти в литературу*[***]*. Он <…> напечатал в “Чырвонам сейбіце”, где я тогда работал, мою первую вещь. Через него я начал печататься в журнале “Узвышша”. Я очень благодарен ему за это… Я приходил — правда редко — к нему на квартиру… Я <…> убежден, что К.Чорны — советский писатель, <…> писатель, который нужен нашей эпохе. Он мне часто говорил <…>, что надо брать пример с больших писателей буржуазии той поры, когда она была прогрессивным восходящим классом — с В.Гюго, с О. Бальзака. Говорил, что писатель нашей эпохи должен в своем творчестве быть посбитом той философии, которая перестраивает свет — это значит философии пролетариата. Творческое переустройство К.Чорного для меня было узором того, как писатель должен перестроить[ся], переиначивая самым основательным образом свое мировоззрение*[†††]*…*

Праца ў “Чырвоным сейбіце” дапамагла Л.Калюгу пачаць жыць, як ён пісаў пазней, «абсалютна самастойна».

З 1928 г. Л.Калюга — студэнт Мінскага Белпедтэхнікума. Разам з ім пачалі або ўжо вучыліся шэраг вядомых у будучым пісьменнікаў. Быў сярод яго аднакурснікаў і біёлаг, мемуарыст Франц Гінтаўт. Праз шмат гадоў ён ўспамінаў:

*“У апошнія сонечныя дні жніўня 1928 года інтэрнат Белпедтэхнікума <…> гудзеў, бы вулей… У адным з пакояў (на шасцярых) фарміравалася студэнцкая сямейка… Перазнаёміўшыся*

---

[††] З прадмовы Склюта Р. (А.Адамовіча) да кнігі: Калюга Л. Нядоля Заблоцкіх. Мюнхен, 1954. С. 5.

[‡‡] Чырвоны сейбіт. 1927. № 13.

[§§] Чырвоны сейбіт. 1927. № 20—21; 1928. № 1.

[***] Праз 65 гадоў Масей Сяднёў напіша: «Нават у Кузьмы Чорнага, блізкага паводле мовы Калюгу, мы не назіраем такой апрычонай, самастойнай лінгвістычнай пазіцыі» (Полацак. 1992. № 6 (16). С. 41).

[†††] З асабовай справы Вашыны К.П. (Л.Калюгі); захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

(С.Астрэйка, Ф.Гінтаўт, А.Юрэвіч[1], С.Брыцька[2], Я.Вус[3]. — ***Л. М***.), *мы пачалі рабіць здагадкі — хто будзе шосты. Неўзабаве… дзівосны Гулівер* (рост Лукаша Калюгі быў большы за два метры. — ***Л. М***.) *апынуўся перад намі, з усмешкай аглядзеў нас, ліліпутаў, і сказаў:*

*— Ну, здаецца, ягамосці, усе ў зборы, бадай толькі мяне не хапала?! То будзем знаёмы і здаровы, дражняць мяне з маленства Кастусь Вашына*[‡‡‡]*”.*

Яшчэ не скончыўшы першы курс педтэхнікума, Л.Калюга стаў сябрам літаратурнага аб'яднання «Узвышша» (з траўня 1929 г.). Пра тое, як гэта адбывалася, засталіся запісы А.Адамовіча:

*“На гадавым сходзе літаратурна-мастацкага згуртавання «Узвышша» 26-га траўня 1929 года, Лукаш Калюга прымаецца ў сябры згуртавання, адначасна з Уладзімірам Жылкам, Андрэем Мрыем* (як і яго малодшы брат Васіль Шашалевіч. — ***Л. М***.) *ды Феліксам Купцэвічам (крытык). Паводле ўзвышэнскай традыцыі, кожны новапрыманы сябра мусіў мець сабе «хроснага бацьку» з узвышэнцаў, абавязанага рэкамендаваць яго гадавому сходу ў адмысловым дакладзе; гэткім «хросным бацькам» Калюгі выпала быць ягонаму аднагодку, тады яшчэ маладому ўзвышэнскаму крытыку Антону Адамовічу (Уладзіміра Жылку «хрысціў» Ул.Дубоўка, А.Мрыя — К.Крапіва, Ф.Купцэвіча — А.Бабарэка). Сходу таму, аднак, судзілася стацца апошнім гадавым сходам «Узвышша», на якім прыймаліся новыя сябры, падводзіліся вынікі папярэдняга й рысаваліся смелыя планы на будучыню”.*[§§§]

Адначасова з вучобай Л.Калюга рэдагуе і перакладае розныя тэксты для Беларускага дзяржаўнага выдавецтва (БДВ) і, галоўнае, пачынае актыўна выступаць у друку. У 1928 г. ва «Узвышшы» на працягу года друкуецца першая аповесць Л.Калюгі «Ні госць, ні гаспадар»[****] (пасля яе пачынаючага пісьменніка прыкмеціў М.Гарэцкі[††††]) і амаль у кожным нумары змяшчае яго апавяданні «Чырвоны сейбіт»: «Дыяментаў у выпісах мала»[‡‡‡‡] (чэрвень?), «Краўцы і чаляднікі»[§§§§] (жнівень), «Лук'ян — капераціўскі сабака»[*****] (кастрычнік), «Трахім з Пагулянкі»[†††††] (лістапад) і «Баркаўцы — добрая вёска…»[‡‡‡‡‡] (снежань?). У наступным годзе выходзяць яшчэ чатыры

---

‡‡‡ Гінтаўт Ф. Па слядах дзвюх знічак. Маладосць. 1986. № 12. С. 136—137.
§§§ З прадмовы Склюта Р. (А.Адамовіча) да кнігі: Л.Калюга. «Нядоля Заблоцкіх». Мюнхэн. 1954. С.7.
**** Узвышша. 1928. № 1—6.
†††† Гл.: Гарэцкі М. Белорусская литература. Краткий очерк. Октябрь. 1928. № 4.
‡‡‡‡ Чырвоны сейбіт. 1928. № 6—7.
§§§§ Чырвоны сейбіт. 1928. № 8.
***** Чырвоны сейбіт. 1928. № 10.
††††† Чырвоны сейбіт. 1928. № 11.
‡‡‡‡‡ Чырвоны сейбіт. 1928. № 12.

апавяданні[§§§§§] і потым — гадавое маўчанне (пераклад «Блакітных эшалонаў» П.Панча[4] хоць і быў зроблены сумесна з К.Чорным, да ўвагі не бярэм)… Пра гэты перыяд свайго жыцця Л.Калюга пазней раскажа на адным з допытаў у НКВД:

*«Когда я заболел* (1930 г. — ***Л. М***.) *ревматизмом и лежал во второй советской больнице, совсем неожиданно ко мне пришел… Владимир Жилка. Больше никто из моих знакомых писателей ко мне не приходил. Этот приход меня очень взволновал. Я был ему за это очень благодарен. И позже, когда я поправился и выписался из больницы, а Жилка заболел и лежал в тубдиспансере, я несколько раз приходил навещать его. Когда он немного поправился, я начал заходить к нему на квартиру. Жил он тогда по Сторожевской улице. В то время он переводил для журнала «Полымя» — «Слова пра Якуба Шэлю» с польского языка* (надрукавана ў 1931 г. у № 2 «Полымя». — ***Л. М***.). *Читал мне [этот] перевод, [и] просил, чтобы [я] замечал сильные ляпсусы <…>, [если] встретятся. Умел шутить, но никогда на него нельзя было обидеться за шутки. Позже, когда ему в БелГосиздате отказали дать перевод и он рассказал мне, что он собирается идти жаловаться в ГПУ, которое признало его, как он говорил — невиноватым — жаловаться, что ему не дают возможности работать, зарабатывать кусок хлеба, я расчувствовался, тем более, что был ему очень благодарен за моральную поддержку меня, когда я лежал в больнице. У меня как раз был неначатый перевод IV тома Швейка и я отдал его переводить Жилко…»*[******]

Тады ж Л.Калюга пачынае пісаць і сваю лепшую аповесць — «Нядолю Заблоцкіх»[††††††], якую ўлетку 1931 г. надрукуе «Узвышша». Прачытаўшы «Нядолю…», ссыльны Адам Бабарэка ў лістах (датаваны 25-26.12.1931 г.) да другога ссыльнага Антона Адамовіча ужо «чуе першы званок» Л.Калюгу з НКВД: «Баюся я, браток Антось, каб сапраўды не сталася гэта нядоля (маецца на ўвазе аповесць «Нядоля Заблоцкіх». — **Л.М**.) нядоляю самога Лукаша»[‡‡‡‡‡‡], а пра саму аповесць А.Бабарэка дадае: «Нядоля Заблоцкіх» — гэта выступленне Лукаша ў ролі майстра-апавядальніка кшталтам класічных майстроў светавой літаратуры»[§§§§§§].

---

[§§§§§] Першае з надрукаваных у 1929 г. апавяданняў Л.Калюгі «Трахім — штучны чалавек» (Узвышша. № 2) вельмі падрабязна і цікава разгледжана ў кнізе М.Лужаніна «З ранку да вечара» (1978. С. 316—327). Як пісаў Ф.Янкоўскі (Вобраз 81. Мн., 1981. С. 317), «Лужанінавы старонкі пра мову Л.Калюгі <…> нібы старонкі арыгінальнага філалагічнага слоўніка".

[******] З асабовай справы Вашыны К.П. (Л.Калюгі).

[††††††] Узвышша. 1931. № 6—7, 9.

[‡‡‡‡‡‡] Калюга Л. Творы. Мн., 1992. С. 565.

[§§§§§§] Калюга Л. Творы. Мн., 1992. С. 568.

Пасля выхаду «Нядолі…» Л.Калюга ўжо вырашыў свой далейшы лёс: *«На последнем 3-м курсе подал заявление об увольнении. Не хотелось быть учителем, не нравилась эта работа. Хотел жить с литературной работы»*[*******]. Дапамаглі тут і “добразычліўцы» з НКВД, якія ўжо больш сур’ёзна ўзяліся за “пачынаючага нацдэма”. На апошнім, трэцім курсе вучобы на пашыраным камсамольскім пасяджэнні было пастаўлена пытанне аб выключэнні “ўзвышэнскага лазутчыка” з камсамолу і адпаведна з тэхнікума. За Лукаша ўступіўся Франц Гінтаўт. Пасля яго выступлення з камсамолу выключылі абодвух. Заявы аб звальненні хлопцы напісалі самі…

Звольнены з тэхнікума, Л.Калюга павінен быў пакінуць і інтэрнат. Дзе жыў малады пісьменнік пасля, мы ведаем з успамінаў Сяргея Грахоўскага:

*«Амаль у полі сярод голага вішняку стаяў невялічкі пamаляваны дамок* (магчыма, гутарка ідзе пра дом, які належаў бацькам А.Адамовіча і які ў 1930-я г. будзе канфіскаваны і аддадзены бліжэйшаму калгасу. — ***Л. М***.). *У ім Лукаш Калюга здымаў пакойчык, адгароджаны шалёўкаю ад зальчыка гаспадароў. У хаце было чыста і цёпла, сцены абклееены таннымі шпалерамі, адзінае акенца выходзіла на гарод з леташнімі тычкамі ад фасолі, далей пачыналася поле»*[†††††††].

З першага студзеня і недзе да сярэдзіны 1932 г. Л.Калюга працаваў сакратаром часопіса «Книга — массам», які выдаваўся пры Беларускім дзяржаўным выдавецтве. Менавіта ў гэты час пазнаёміўся з Л.Калюгам Ян Скрыган:

*«Увосень 1932 года <…> на рагу Савецкай і Ленінскай убачыў Заіра Азгура*[5]*. Ён <…> нешта горача тлумачыў высокаму, цыбатаму хлопцу. На хлопцу быў кароткі суконны курцік чорнага колеру і кепка з вельмі сплясканым верхам. Твар бледнаваты, з тонкім інтэлігентным профілем, вочы шэрыя з чутачку сінявaтым дымком, а губы ўвесь час як бы стрымліваюць скептычную ўсмешку.*

*Знаёмся, — сказаў Азгур, — Лукаш Калюга”*[‡‡‡‡‡‡‡].

Да сярэдзіны года Л.Калюга заканчвае пісаць «Цеснаватую куртачку», пра якую пазней яшчэ не аднойчы з ім будуць гутарыць у кабінетах “амерыканкі”.

*«Аднаго разу ён* (Л.Калюга. — ***Л. М***.) *даў мне* (Я.Скрыгану. — ***Л. М***.) *рукапіс свайго апавядання: “Будзе час — прачытаеш”. Ведама, я прачытаў яго таго ж вечара. Дасціпны майстар, жыццялюб, тонкі*

[*******] З асабовай справы Вашыны К.П. (Л.Калюгі).
[†††††††] Грахоўскі С. Так і было. Мн., 1986. С. 169.
[‡‡‡‡‡‡‡] Скрыган Я. Некалькі хвілін чужога жыцця. Мн., 1990. С. 56.

*стыліст — усё калюгаўскае было ў тым апавяданні. І тая самая прыжмураная калюгаўская ўсмешка. Называлася яно «Цеснаватая куртачка»*[§§§§§§§].

С.Грахоўскі пра адну сустрэчу з Л.Калюгам потым напіша: *«Аднойчы зімою 1932 года <…> нам* (С.Грахоўскаму і С.Астрэйку. — ***Л. М***.) *сустрэўся высокі, танклявы, у вынашаным кажусе і шэрай кепцы, з тонкімі рысамі твару хлопец… Прыгожае, трошкі выцягнутае аблічча, з яснымі, класічнага разрэзу вачамі, на вуснах дрыжала ледзь прыкметная ўсмешка, нібыта ён ведаў нешта такое, пра што не хацеў гаварыць, у вымаўленні «ракатала» картавінка. З караткаватых, аблямаваных абшмулянаю кажушынаю рукавоў вытыркаліся вузкія далоні з доўгімі тонкімі пальцамі… Трымаўся ён упэўнена, з годнасцю…*

*Потым чытаў мне цікавыя мясціны з дзённікаў Флабэра і яшчэ нейкіх невядомых мне аўтараў*[********]. *Тады я асабліва востра адчуў, наколькі недасведчаны і цёмны»*[††††††††].

З сярэдзіны і да канца 1932 г. Л.Калюга працуе стыльрэдактарам у радыёцэнтры.

У пачатку 1933 г. у «Чырвонай Беларусі» з'яўляецца навела «Вам знаёмае»[‡‡‡‡‡‡‡‡]. Прыблізна ў той час «ЛіМ» у раздзеле "Пісьменнікі і крытыкі ў 1933 г." паведамляе (апошнія пры жыцці надрукаваныя словы Л.Калюгі): "У 1933 годзе мяркую выдаць зборнік навел пад назваю: "Вам знаёмае" і працаваць далей над гэтым жанрам.

На маю думку, навела найбольш падыходзіць у наш час. Яна паўней, яскравей можа адлюстраваць сацыялістычныя тэмы нашага жыцця. Класавыя ж супярэчнасці, асабліва абвостраныя цяпер, якраз і дадуць удзячны матэрыял для вострай сюжэтнай канструкцыі.

Цяпер мяне найбольш цікавіць, як селянін, уласнік у мінулым, у калгасах, саўгасах, на сацыялістычных прадпрыемствах горада ператвараецца ў свядомага будаўніка сацыялістычнага радаснага грамадства.

Акрамя таго маю напісаць за гэты год невялічкі — самае больш на 5 друкаваных аркушаў — раман, таксама актуальны, дынамічны, радасны" [§§§§§§§§].

Нягледзячы на такія вось «сацыялістычныя» і «радасныя» планы, у ноч з 23 на 24 лютага 1933 г. «песняра камсамоліі» (так

---

§§§§§§§ Тамсама. С. 57.

******** З «Успамінаў пра сябра» Ф.Гінтаўта (Калюга Л. Творы. С. 604) высвятляецца, што, магчыма, гэта былі Ф. Рабле, Дж. Свіфт і Вальтэр.

†††††††† Грахоўскі С. Так і было. Мн., 1986. С. 169.

‡‡‡‡‡‡‡‡ Чырвоная Беларусь. 1933. № 2—3.

§§§§§§§§ ЛіМ. 1933. 28 студз.

чамусьці ў рэцэнзіі на першую кнігу пісьменніка (пабачыла свет толькі ў 1974 г.) яго назаве М.Вышынскі[*********]) Л.Калюгу арыштоўваюць. У тую самую ноч энкавэдысты схапілі і шмат былых ягоных аднакурснікаў па педтэхнікуме. Усяго ж на працягу года было арыштавана каля пяцідзесяці беларускіх літаратараў і публіцыстаў:

Змітрок Астапенка, Сяргей Астрэйка, Лявон Бабровіч[6], Мікалай Верамей[7], Алесь Вечар[8] (па звестках С.Кандыбовіча), Змітро Віталін, Іван Віткоўскі[9], Сяргей Гайка[10], Міхаіл Ганчарык[11], Уладзімір Гесэн[12], Франц Гінтаўт, Клім Грыневіч[13], Ігнат Дварчанін[14] (паўторна), Уладзімір Дудзіцкі, Мікалай Дурнаво[15], Сцяпан Журык[16], Міхась Кавыль, Міхаіл Кахановіч[17], Леанід Свэн, Фелікс Купцэвіч (паўторна), Сцяпан Ліхадзіеўскі, Максім Лужанін, Аркадзь Мардвілка, Іосіф Мацюкевіч[18], Аляксандр Нікалаеў-Астравецкі[19], Мікола Нікановіч[20], Змітро Паваротны, Алесь Пруднікаў, Сяргей Прытыцкі, Язэп Пяткевіч, браты Леапольд і Чэслаў Родзевічы (абодва паўторна), Сяргей Русаковіч, Езекііль Рыўлін, Раман Сабаленка, Уладзімір Сядура, Юлій Таўбін, Мікола Улашчык (паўторна), Макар Шалай і неаднаразова арыштаваныя дагэтуль яшчэ польскімі ўладамі Максім Бурсевіч, Язэп Гаўрылік, Андрэй Капуцкі, Пётр Мятла, Алесь Салагуб[21] і іншыя.

Пратакол вобыску:

*Взято для доставления в ГПУ БССР :*

*переписка, авторские рукописи* (у тым ліку і рукапіс «Нядолі Заблоцкіх». — ***Л. М***.), *печатная литература.*

*Постановление*

*о предъявлении обвинения и избрании меры пресечения. 1933 г. марта 3 дня, г. Минск.*

*Гражданин Вашина Константин Петрович достаточно изобличается в том, что являясь одним из руководителей к-р нацдемовской организации проводил работу по вербовке членов и насаждении ячеек этой организации как в г. Минске так и в других городах и районах БССР и распространял запрещенную литературу.*

*Привлечь Вашина К.П. в качестве обвиняемого по ст. 72,76,64 УК БССР и содержать под стражей при Комендатуре ПП ГПУ БССР*[†††††††††]*.*

Цікавы эпізод з часу знаходжання Лукаша Калюгі ў “амерыканцы” расказаў біёлаг, былы гулагавец Франц Гінтаўт.

[*********] Полымя. № 10. С. 239.
[†††††††††] З асабовай справы Л.Калюгі.

Ён стаяў у турэмным калідоры “тварам да сцяны” — на допыт вялі Лукаша Калюгу. Нечакана насустрач яму — Алесь Кучар з двума следчымі. Турэмшчыкі разгубіліся. Па правілах, яны павінны былі гаўкнуць Кучару: “Тварам да сцяны!” Але — свой жа! Ды бачыць арыштаванага Калюгу ўсё адно не павінен! І тады следчыя проста прыгнулі Кучара да падлогі. Двухметровы Л.Калюга са словам “шаўка!”, не запыняючыся, пераступіў цераз энкавэдысцкага кансультанта.

Па сведчанні Ф.Гінтаўта, мянушка “шаўка” прыклеілася да аматара чытання Троцкага яшчэ з таго часу, калі, забіўшы нейкага дварняка, ён зрабіў з ягонай скуры барабан і хадзіў па вуліцы — “піянерыў”. Гаварылі, што сабакі ўцякалі ад гэтага барабаншчыка за квартал…

*Даведка*
*з Дабрынёўскага сельсавета*
*Дзяржынскага раёна* (напісана ад рукі; стыль і арфаграфія арыгінала захоўваюцца. — ***Л. М***.):

*Дадзена гэта Дабрынёўскім с/с на гр. в. Скварцы Вашына Кастуся Петрусёвага. У тым што маёмастная становішча наступная: зямлі усіх угодзей 12 га, коней трое, каровы чатыры, дробнай жывёлы 12 штук падатку плаціў 85 руб 75 коп Гаспадарка была абложана в индывідуальным парадку у 1930 годзе і раскулачано гр-н Вашыно Паулюк зьяўляўшыся на вёску Скварцы займаўся разлагальнай працай па разложені і усего будаўніцтва где сабіраў молодзеж агітаваў где по его віне былі выхады з калгасу «Роза Люксембург». Усе гэта сьведчыць на тоя што ён шкодны элемент у нашым будаўніцтве.*

*Аб чым і сведчыць Дабрынёўскі с/с.*

*Старшыня* (подпіс неразборлівы).
*Сакратар* (подпіс неразборлівы) [‡‡‡‡‡‡‡‡‡].

Пасля такой «характарыстыкі» «суд» доўга не думаў: пяць гадоў пазбаўлення волі. Пакаранне Л.Калюга адбывае ў г. Ірбіт (цяпер Краснаярскі край).

У 1934 г. «пісьменнік-камуніст <…>, [які] лепшыя годы свайго юнацтва… аддаў на барацьбу з ворагамі пралетарскай рэвалюцыі, актыўна змагаўся з рознымі варожымі ўплывамі, у тым ліку з

[‡‡‡‡‡‡‡‡‡] З асабовай справы Л.Калюгі.

буржуазна-нацыяналістычнымі «тэорыямі»[§§§§§§§§§], Якаў Браншт эйн[22] у артыкуле «Пра беларускую савецкую прозу» (ЛіМ. 10 ліпеня) смела пачаў граміць падследнага Л.Калюгу (у тым жа годзе Я.Браншт эйн «заатакаваў» «ЛіМ» сваімі «ярабальшавіцкімі», супрацьнацдэмаўскімі перадавіцамі):

*«Для таго, каб трапіць у вёску Здарэнне, трэба, бачыце, праехаць праз вёску Анекдоты, — гэта значыць, каб напаткаць выпадак (а гаворка ідзе пра багаты «выпадкамі» 1930 год), трэба прайсці праз антысавецкі анекдот. Барацьба Калюгі за анекдот у літаратуры, гэта не ёсць нявінная барацьба наватара супраць сюжэтнай шэрасці, — гэта барацьба заклятага ворага, барацьба нацыяналіста супраць сацыялізма — гэта здзек класавага ворага з праблемы фабульнасці ў нашай літаратуры. Нацдэм Калюга не абмяжоўваецца гэтым. Ён імкнецца сугуба нявінна падняць пытанне сюжэтнасці нашай прозы. Ён агітуе за сюжэт, за сюжэтнае багацце нашай прозы. Але звярніце ўвагу, ЯКІМІ СРОДКАМІ* (тут і далей, магчыма для узмацнення эмацыянальнай успрымальнасці, некаторыя словы выдзелены Я.Браншт эйнам вялікімі літарамі. — ***Л. М***.)*: пад маскай здавалася-б чыста літаратурнай дыскусіі ён зноў ідзе ў наступ супраць дыктатуры пралетарыята… Праблема сюжэта ставіцца тут нацдэмам, як праблема ПАЛІТЫЧНАЯ!»*

У «збіванні ляжачага» Я.Браншт эйн не быў першаадкрывальнікам. Яшчэ ў 1931 г. іншы крытык, Сымон Куніцкі, у “рэцэнзіі” «Крытычныя артыкулы Антона Адамовіча як адлюстраванне буржуазнай нацыянал-дэмакратычнай ідэалогіі»[**********] (“Полымя”. № 2) граміў другога падследнага, А.Адамовіча. Пазней ні Я.Браншт эйну, ні С.Куніцкаму гэта не дапамагло і ад энкавэдысцкіх кіпцюроў не выратавала: у лістападзе 1936 г. С.Куніцкі, а праз паўгода і Я.Браншт эйн будуць арыштаваны і восенню 1937 г. асуджаны: Я.Браншт эйн — да ВМП, а далейшы лёс С.Куніцкага невядомы і дасюль…

Пра першыя два гады жыцця Л.Калюгі ў ссылцы можна даведацца з яго лістоў да былой аднакурсніцы Ніны Казлоўскай[††††††††††] і асабліва з аўтабіяграфіі А.Адамовіча, напісанай у канцы 1935 г. у Вятцы. Трэба ўдакладніць, што аўтабіяграфію крытык пісаў на запыт

---

[§§§§§§§§§] Лынькоў М. “Ён быў сярод нас”. ЛіМ. 1962. 25 снеж.
[**********] Полымя. 1931. № 2.
[††††††††††] У лісце ад 7 жніўня 1935 г. Л.Калюга «кпіў» (а мо і не) так:
*“Вам здаецца, што 300 рублёў задорага за мой аўтограф?! Ды няўжо Вы ні разу не прыкмецілі, што сярод тых аўтографаў былі часамі (траплялiся) цуды стылістыкі? Можа яны з часам маглі б стаць скарбам для будучага музея майго імя?”*
Апошняе з таго, што было напісана рукой Л.Калюгі і дайшло да нас, была яго запіска да Н.Казлоўскай: «Табе і Радзіме ніколі не здраджу» (Калюга Л. Творы. Мн., 1992. С. 573).

НКВД і ў час, калі пяцігадовы тэрмін яго высылкі скончыўся. У такой сітуацыі А.Адамовіч знаходзіўся адразу між некалькімі агнямі. Па-першае, ён павінен быў паказаць (і нават даказаць) сваю лаяльнасць рэжыму, што ён перавыхаваўся, раскаяўся, або што хоць бы імкнецца да гэтага. Па-другое, ён павінен быў паказаць, што не толькі перавыхаваўся сам, але і актыўна садзейнічае перавыхаванню іншых нацдэмаў. Мяркуючы ж па тым, што тэрмін ссылкі А.Адамовічу працягнулі яшчэ на два гады (на самай справе — на тры), «затуманіць вочы» НКВД яму не ўдалося. У аўтабіяграфіі А.Адамовіч піша:

*“В конце 1933 или в начале 1934 года*[‡‡‡‡‡‡‡‡‡‡] *я получил письмо из Ирбита — писали из ссылки Астрэйка*[§§§§§§§§§§]*, Селедник*[**********]*, Калюга…*

*Лукаш Калюга… Мы с ним были ровесники и почти одновременно начали печататься (во всяком случае одновременно начали печататься моя большая работа «Максім Гарэцкі» и его первая большая повесть «Ні госць, ні гаспадар”). В литературу Лукаша привел Кузьма Чорны. Он же продвинул его упоминавшуюся повесть. Однако познакомился я с ним <…> не раньше, чем через полгода после этого, так как жил он в деревне, свои произведения посылал оттуда и в городе бывал редко.*

*От <…> политики он стоял далеко (в “Узвышша” вступил на год позднее меня, хотя печататься мы стали одновременно), ею не*

---

[‡‡‡‡‡‡‡‡‡‡] Праз некалькі месяцаў (9.3.1934) Л.Калюга напіша ліст і П.Глебку:
*“Шаноўны Пятро Глебка!*
*У Вас, здаецца, застаўся паасобнік урыўка «Надломаны крык», што я даваў друкаваць. Апынуўшыся ў такім стане, калі ў сябе няма аніводнае паперчынкі рукапісаў, вельмі б хацелася атрымаць згаданы ўрывак назад. Гэта і змусіла пісаць да Вас. Калі ён у Вас і звярнуць яго льга, дык напішыце пра гэта мне на такі адрас: Ірбит, Ирбитская 65, кв. 1, каб я мог даручыць каму ўзяць яго ў Вас. Буду дужа ўдзячны.*
*З пашанаю*
*В.К.*
*P.S. Прабачце за турбаванне!*
*Па адрасу: Свердловская обл.”*
(Беларусь. 1990. № 12. С. 26.).

[§§§§§§§§§§] З артыкула М.Кавыля «Казённы дом і далёкая дарога» (Запісы. 1992. № 20. С. 65—101):
*«Астрэйка <…> дадумаўся «перахрысціць» СВБ, напісанае на значку Саюза Ваяўнічых Бязбожнікаў, на Саюз Вызвалення Беларусі. І канспірацыю прыдумалі: насіць значок не на штрыфелі пінжака, а пад штрыфелем. І я паддаўся гэтай гульні… А гэтая гульня не прайшла незаўважанай тымі, каму трэба ўсё заўважаць…*
*Часта ўспамінаю ноч, калі мы бадзяліся па Камароўцы* (адно з месцаў масавых расстрэлаў бальшавікамі беларусаў у пачатку 1930-х г. — ***Л. М***.). *Гэта ж Астрэйкава была ініцыяціва. Як быццам нейкая сіла цягнула яго, а ён нас, да магілы, дзе неўзабаве і яго пасадзілі на край ямы і піхнулі на акрываўленыя трупы гарачым драбком волава… Праўда, не на Камароўцы.*
*Нас, яго прыхільнікаў, паклоннікаў яго таленту, «гарачыя драбкі волава» абмінулі таму, што мы паэмы, падобныя да Астрэйкавай «Бенгаліі»* (рукапіс не захаваўся. — ***Л. М***.), *не пісалі…*
*Сяргей Астрэйка чытаў сваю паэму. Пісалася ў «Бенгаліі»* (паэму ўхваліў і Янка Купала, які прысутнічаў на чытанні яе аўтарам ў Доме пісьменніка ў 1932 г. — ***Л. М***.), *пра цяжкую долю бенгальцаў пад ангельскай акупацыяй. У пору-б яе выкарыстаць у антыангельскай прапагандзе, а яе падлабызнікі паэта ўзнялі на п’едэстал антыкамунізму, махлюючы падабенствам назоваў Бенгалія і Беларусь, акупанты англічане — акупанты маскалі. Астрэйка не пярэчыў гэтаму і паплаціўся…»*

[**********] Біяграфічныя звесткі не выяўлены.

*интересовался и, вообще, производил <…> впечатление человека замкнутого.*

*Разбил его замкнутость, ввел в “Узвышша” и стал его “крестным отцом” я. При этом сделал доклад о его творчестве на традиционном годовом собрании, когда “Узвышша” принимало новых членов. Расшевелить его крестьянскую замкнутость было трудно, да так и не удалось тогда мне до конца. В “Узвышша” он вошел, лишь уступая долгим моим уговорам, да и при своем пребывании в нем (при мне по крайней мере) не интересовался его внутренними делами, стоя в стороне от описанной мною выше борьбы “большинства” и “меньшинства”, как ни старался я перетянуть его на сторону последнего. Единственным своим делом он считал литературное творчество, которому целиком отдавался. Однако очевидно моя обработка его, хотя и значительно позже, а дала свои плоды и весь дальнейший “рост” Калюги вплоть до последнего времени я объективно должен приписать себе, как это ни тяжело мне теперь сознавать.*

*Первая повесть Лукаша посылала комсомольца в деревню и не вызвала никакой идеологической критики. Дальнейшие его произведения, печатавшиеся при мне, имели характер разработки народных анекдотов и вообще, идеологически были бесхребетными и художественно довольно рыхлыми, чем и вызвали недовольство, как внутри “Узвышша”, так и в беглых замечаниях критики со стороны, однако резких выпадов и замечаний о враждебности не вызывали. Только за последнее время, учась уже в Белпедтехникуме и живя в соседней со мной комнате, Лукаш стал несколько поддаваться моей “узвышенской” обработке и даже принимать некоторое участие в литературной политике, по крайней мере в знаменитом техникумовском литературном кружке.*

*Во время <…> [моей] ссылки Лукаш начал печатать свою большую повесть “Недоля Заблоцких” и прислал начало ее мне и Адаму* (Бабарэку. — ***Л. М.***). *Вскоре прислал он мне [и] небольшое письмо, в котором жаловался на то, что критика не справедливо считает его произведение кулацким. Я ободрил его, [сказав], что наоборот по-моему он стоит теперь на позициях бедняцкого крестьянства (по этому поводу мы обменялись мнениями с Адамом Бабареко, который придерживался той же точки зрения). Больше Лукаш мне не писал и второй части “Заблоцких” уже не прислал (я ее прочел позже, получив от родителей); позже я узнал, что дальнейшее печатание его произведения было прекращено, ввиду признанной его враждебности. Из белорусских газет я узнал, что Лукаш напечатал*

*еще одну новеллу “Тесноватая курточка”, которую резко критиковали, как кулацкую, и журнал с которой был даже запрещен. (Сам Лукаш позже недоумевал мне по поводу этого, считая, что пролетарская литература не увидела в этой новелле “своей пользы” и так грубо ее поняла и не приняла, однако моей просьбы восстановить эту новеллу для меня и прислать прочитать он так и не выполнил).*

*Вот теперь с этим самым Лукашом у меня и завязалась оживленная переписка, которую я и считаю темною полосой, тянувшейся за мной до последних дней. Такая моя оценка ее вызывается тем, что, во-первых, эта переписка стала причиной рецидивов многих настроений, неизжитой еще моей националистической психологии (хотя идеологически я как будто и перестроился) и во вторых, потому, что в ней я все время чувствовал свою неловкость и двурушничество, кривил душой и перед самим собой, и перед ним, никак не решаясь сказать ему всю правду прямо, или повлиять на него в другую сторону, или порвать с ним вовсе, что я сделал только теперь.*

*Первым моим чувством было поддержать и Лукаша и всех ирбитских близких мне когда-то людей, ободрить их в ссылке, что я и сделал, вместо того, чтобы сразу же раскрыть их глаза на действительное положение вещей и призвать к пересмотру позиций. Такое начало нашей переписки, определение и дальнейшее ее продолжение, потянуло за собой и упоминавшиеся мной рецидивы. Положение стало и оставалось для меня в высшей степени ложным до самого последнего времени.*

*Оказав моральную поддержку, я хотел было оказать и поддержку материальную, что мог сделать вполне [и] даже пообещал. Однако, поразмыслив, воздержался, считая, что я смогу это сделать только после того, как постепенно “переработаю” идеологически своих друзей. Да, у меня не хватило мужества начать такую переработку сразу же и решительно, я понадеялся на “постепенность”, которая так и осталась благим пожеланием, обернувшись в “постепенность” совсем обратного порядка: в процессе переписки я <…> возвращался к своим старым позициям, по крайней мере психологически.*

*Это было первое мое двурушничество и кривление душой перед собой и перед ними.*

*Немало было таких же ложных ситуаций и в нашей переписке. Из них вспоминается наиболее яркая: в одном из писем Лукаш обвинил Астрейку в якшании с местными ирбитскими*

*девушками и женщинами “фино-монгольского” типа и писал, что сам он придерживается в этом отношении принципа “чистоты расы”, спрашивая об этом моего мнения. Я сначала хотел раскритиковать эту “теорию”, потом просто обойти ее молчанием, а кончил тем, что поддержал Лукаша, боясь, что в противном случае подорву его доверие к себе и заставлю смотреть на себя с тем же презрением, с каким он смотрел на Астрейку*[†††††††††††]*. Между тем, сам я не только давно поступал так, как Астрейка, но как раз в это время увлекался одной девушкой “фино-монгольской рассы” и даже женился бы на ней, если бы только она на это согласилась* (што далей і здарылася. — ***Л. М***.)*… А Лукашу (и себе конечно) я так жестоко кривил душой и даже плел какую то муру о белорусах, как чистейшей славянской расе, в которую сам уже давно не верил…* (Як потым высветлілася — верыў. — ***Л. М***.)

*Так, боясь заслужить у хорошего товарища плохое мнение о себе, я не только поддерживал его на националистических, даже явно фашистских (расовая теория) позициях, [а] и сам этим самым скатывался на них…*

*Моя переписка с Калюгой, начатая в Глазове, продолжалась и в Кирове. Правда, с моей стороны она была менее регулярной, так как я чувствовал свое ложное положение в ней, описанное уже выше мною. Поэтому я старался отвечать больше открытками и то только после “проборок” за лень, которые получал от своего корреспондента.*

*А он* (Л.Калюга. — ***Л. М***.) *был неутомим. В письмах он начал слать мне свое новое произведение “Пустодомки”. Начало его очень понравилось и мне и Адаму. Ценно было то, что Лукаш оценивал всех, выброшенных за последние годы из Белоруссии (нацдемов и кулаков), не в гордом ореоле “изгнанников”, как это часто делали мы сами, а как обыкновенных “пустодомков”, пустых и ненужных людей*[‡‡‡‡‡‡‡‡‡‡‡]*. Однако с течением повести автор все больше и больше начинал проникаться сочувствием к своим героям и под конец ее стал выражать это сочувствие уже более явно. И я, и Адам это рассматривали как срыв и как ошибочную тенденцию вообще. Надо было сказать об этом автору. И я, и Адам принимались несколько*

---

[†††††††††††] Ф.Гінтаўт у артыкуле «Па слядах дзвюх знічак» (Маладосць. 1986. № 12. С. 143, 145) пра адносіны Л.Калюгі і С.Астрэйкі пісаў па іншаму:
*«Самым блізкім сябрам Сяргея* (Астрэйкі. — ***Л. М***.) *стаў на тры гады старэйшы за яго Кастусь Вашына…*
*Лукаш Калюга і Сяргей Астрэйка былі сябрамі да апошніх дзён».*

[‡‡‡‡‡‡‡‡‡‡‡] *«На высылцы ў Ірбіце Калюга напісаў свой новы раман — «Пустадомкі», з жыцця тае беларускае «нацдэмаўскае» моладзі, што з яе ГПУ фабрыкавала тымі часамі «справы» тыпу тае, у якой пацярпеў і сам Калюга»* (З прадмовы Р.Склюта — А.Адамовіча да кнігі: Калюга Л. Нядоля Заблоцкіх. Мюнхен, 1954. С. 27).

*раз за написание такой критики, но никак не могли найти подходящей формы, которая с одной стороны не задела бы автора и не отбила бы у него охоту писать вообще, а с другой стороны достигла бы желаемой нами цели. Так мы все и кормили его обещаниями этой критики, но и по сей день не сдержали [свое слово]. Опять таки интеллигентная мягкость и стеснительность вместо решительной критики…*

*Однажды как-то Лукаш попросил меня прислать ему "Тостамент" ("Завещание"), предсмертное стихотворение покойного В.Жилки, умершего в ссылке в Уржуме. Чтобы чем-нибудь отплатить ему за присылаемые свои произведения, я попросил-таки "Тостамент" у Кипеля, у которого он был в переписанном виде, так как очень ему нравился, переписал его и послал…*

*Когда-то "Тостамент" был у меня, с ним меня своевременно познакомил Адам Бабареко, на которого он произвел сильное впечатление (жена Бабареко даже плакала), но у меня он не сохранился.*

*Посылая "Тостамент" Лукашу, я не преминул выразить как свое глубокое сожаление по поводу смерти поэта, так и восхищался его произведением, причем сделал это в националистических тонах, в чем не могу не видеть еще одного из тех рецидивов своей националистической психологии, о которой я уже не раз писал выше.*

*И вот недавно я получил сообщение Селедчика о том, что Лукаш арестован и, несколько позже, что его обвиняют в распространении этого самого, когда то посланного мной "Тостамента"*[§§§§§§§§§§§].

Далейшы лёс Л.Калюгі мы ведаем з наступных дакументаў:

"*Обзорная справка*

*по архивно-следственному делу №2330 по обвинению Вашина-Калюги Константина Петровича <…> ст. 58-10 УК РСФСР Вашина-Калюга был арестован 6 ноября 1935 г. Ирбитским РО УНКВД Свердловской обл. на основании, как это усматривается из материалов дела, свидетельских показаний Новикова В.А и Свитнева К.П.*

*Свидетель Новиков на допросе 7 июня 1935 г. показал, что на вечеринке, устроенной в честь нового 1934 г. Вашина-Калюга декламировал стихи Жилки* («Тастамэнт». — **Л.М.**), *в которых выражалась тоска по родному краю. Свитнев показал, что Вашина-Калюга декламировал написанное в антисоветском духе*

[§§§§§§§§§§§] БДА Беларусі. Фонд 569. Воп. 1. Адз. зах. 7. С. 61—65, 82—85.

*стихотворение, но содержания стихотворения не помнит, и кроме того восхвалял жизнь в Польше.*

*После ареста Вашины-Калюги по его делу были допрошены свидетели (Коссак, Лопаткова, Кузнецов…), которые показали, что со стороны Вашины-Калюги имели место антисоветские высказывания, а остальные свидетели никаких показаний о его преступной деятельности не дали. Калюга виновным себя не признал и показаний свидетелей, изобличавших его в антисоветской деятельности не подтвердил. 2 января 1936 г. следствие по делу Вашины-Калюги было закончено и 22 февраля 1936 г. Особым Совещанием при НКВД СССР он был осужден за к-р деятельность на 5 лет ИТР. По материалам дела за 1933 г. Вашина-Калюга не допрашивался. [Тогда] Вашина-Калюга проходил по делу 47 человек, арестованных в феврале-апреле 1933 г. ПП ОГПУ БССР, всем было предъявлено обвинение в том, что они состояли членами к-р нацдемовской организации (Купцевич, Астрейко, Лиходиевский, Таубин…). Дело прекратить за отсутствием состава преступления.*

*КГБ БССР,*
*25 июля 1956 г.*

З запатрабавання ў аператыўна-даведачную картатэку Улікава-архіўнага аддзела на Калюгу К.П. — арыштаванага НКВД Чэлябінскай вобл.:

*«2 октября 1937 года Вашина-Калюга К.П. осужден Тройкой УНКВД Челябинска к ВМН — расстрелу. Приговор исполнен 5 октября 1937 года. Архивно-следственное дело № 238171. — 1935 г., 599028, 346589 — 1937 г.»*[************]

*КГБ БССР,*
*18 мая 1956 г.”*

Лукаш Калюга, як і большая частка беларускіх пісьменнікаў гэтак званага «першага прызыву» (1917—1937), не дажыў і да трыццаці гадоў. Лёс гэтага беларускага самародка нагадвае расстраляную на ўзлёце птушку. Ужо фактычна не застаўшы нэпманаўскую адлігу, калі яшчэ больш-менш была магчымасць пісаць не толькі оды бальшавізму, ён змог ва ўмовах нават

[************] З асабовай справы Вашыны К.П. (Л.Калюгі). Там жа маецца даведка аб канчатковай рэабілітацыі Вашыны К.П. 20 мая 1988 г.

чалавеканенавісніцкага рэжыму ўзняцца сваім талентам над ім. Рэжыму таго няма, а Лукаш Калюга — з намі.

## Замест пасляслоўя

Калі артыкул, які пісаўся да 90-годдзя з дня нараджэння Лукаша Калюгі, быў гатовы і засталося аздобіць яго фотаздымкамі, камп'ютэр паказаў, што мае толькі тыя некалькі здымкаў, якія былі змешчаны ў кнізе "Творы" (Мн., 1992) і паралельна, тады ж, — у перыядычным друку. У выніку пошукаў высветлілася, што і ў музеях-архівах рэспублікі няма ніводнага партрэта пісьменніка. Выхад у такім выпадку, як падказваў вопыт, быў адзін — ехаць на радзіму Калюгі. Так было, напрыклад, з Віктарам Казлоўскім: у вёсцы Мрочкі (за 15 км ад Узды ў бок Капыля), дзе ён нарадзіўся, я знайшоў невядомы фотапартрэт паэта.

Фотаздымкі з кнігі "Творы" сведчылі, што ў вёсцы Скварцы Дзяржынскага раёна Мінскай вобласці захаваўся дом пісьменніка. Ёсць у кнізе і фотаздымак магілы ягонай маці. Але на месцы мяне, хоць і не адразу, чакаў сюрпрыз. "Старое кладбішча", як тут называюць даволі вялікую даваенную частку вясковых могілак, зарасло непралазным кустоўем і маліннікам. Пралазіўшы па гэтых джунглях дацямна, я так і не здолеў адшукаць магілу маці пісьменніка. Але — вада камень точыць: у наступны прыезд я быў больш упарты і, калі абшукваў чарговы квадрат могілак, нечакана наткнуўся на невялікую палянку, выцерабленую ў гушчары. Сэрца закалацілася, калі ўбачыў надпіс на помніку, што стаяў пасярод гала:

Ольга
ВАШИНА
Жила 26
лѣтъ. Умерл.
сентября 25
дня 1911 г.
Упокой Господ
Душу ей

Ніжэй была прымацавана невялікая пліта з партрэтам маладога чалавека і подпісам:

Лукаш Калюга

(пісьменнік)

Вашына
Канстанцін Пятровіч
27 2
1909 — 1937
X X

## ПРЫМІ, РОДНАЯ, СЫНА СВАЙГО, БО МАГІЛЫ ЁН НЕ МАЕ

Як, магчыма, чытач заўважыў, дата смерці пісьменніка пазначана недакладна. Ды што даты! І праз пяцьдзесят гадоў нашчадкі расстраляных не ведалі іх сапраўднага лёсу, бо пасля смерці галоўнага забойцы ўсіх часоў і народаў атрымалі адно пісулькі-”рэабілітацыі”: “Ваш бацька (маці і да т.п.) памёр ад інфаркту (інсульту, сухотаў і г. д.) у турэмнай бальніцы (лагеры, на фронце, па дарозе дамоў…)” І праз пяцьдзесят гадоў многія з тых, хто не атрымаў “рэабілітацыі”, працягвалі жыць надзеяй на вяртанне бацькоў, чакалі… “Крымінальныя” справы рэпрэсаваных, але не рэабілітаваных пісьменнікаў і дагэтуль застаюцца сакрэтнымі нават для даследчыкаў…

Побач з гэтай магілай былі яшчэ дзве. Як потым паведаміў мне Уладзімір Уладзіміравіч Івашын (інвалід вайны; разам з сынам Мікалаем яны і аднавілі гэтыя магілы), тут пахаваны бацька і айчым Лукаша Калюгі (бацька Уладзіміра Уладзіміравіча).

Сфатаграфаваўшы помнік і магілы, я вярнуўся ў вёску: мне паказалі дом Вашынаў, і цяпер карцела даведацца, ці жыве хто ў гэтай, як выглядала, забытай Богам хаціне. Быў поўдзень, але калі ўвайшоў (дзверы былі не зачыненыя, а на стук ніхто не адазваўся), апынуўся ў поўнай цемры. Апрача таго, на мяне (кажучы словамі Міхася Кавыля, якія вырваліся ў яго, калі першы раз ступіў у адну з камер “амерыканкі”) “дыхнула такім смуродам, што ледзь утрымаўся на нагах”. Трошкі прызвычаіўшыся да змроку, колькі разоў пстрыкнуў фотаапаратам, хоць амаль нічога не разгледзеў, ды яшчэ й фотаўспышка сляпіла вочы. Адчуваючы сябе няпрошаным госцем, не стаў затрымлівацца ў чужой хаце…

І вельмі ж быў уражаны, калі ўбачыў, што атрымалася на гэтых фотаздымках: убогасць чалавечага жытла шакіравала.

Можна было без сумневу меркаваць, каго прытуліла хата аднаго з самых таленавітых сыноў Беларусі. Хату, што ўжо гадоў

сорак павінна была б быць музеем пісьменніка (якога Максім Гарэцкі ставіў у шэраг першых празаікаў Беларусі), сёння абжылі бамжы. Вось гэтак, “па-бамжоўску”, ушаноўваем мы лепшых сыноў Бацькаўшчыны. Пісьменніка расстралялі, а цудам ацалелую хату (якая ў любую хвіліну можа згарэць), дзе ён нарадзіўся і пражыў да дзевятнаццаці гадоў, ператварылі ў “бамжатнік”.

І суцяшалі адно адшуканыя на старым пагосце магілы: значыць, ёсць людзі, якія не хочуць быць і не будуць бязроднымі Іванамі...

P. S.

*УТВЕРЖДАЮ*

*на заседании комиссии*
*21.07. [19]93г.*
*(Протокол № 37)*

*ЗАКЛЮЧЕНИЕ по материалам проверки заявления гр. Ивашина Владимира Владимировича, проживающего в г. Дзержинске, ул. Карла Маркса дом 6 кв. 14, с ходатайством о возмещении стоимости имущества, утраченного в 1933 году в связи с раскулачиванием его отца Ивашина Владимира Степановича.*

*Проверкой установлено, что Ивашин В.С. 1883 года рождения, бывший житель дер. Скворцы, Добриневского с/совета Дзержинского района Минской области, в 1933 году был раскулачен и выслан за пределы Республики. Реабилитирован 30 апреля 1993 года.*

*В период раскулачивания было изъято имущество: надворные постройки, скот, сельхозинвентарь. Свидетель Гладкая М. Н., уроженка и жительница дер. Скворцы Дзержинского района, подтвердила факт изъятия имущества у Ивашина В. С. и передачу местному колхозу.*

*На основании изложенного комиссия решила:*

*I. Рекомендовать исполкому Дзержинского райсовета народных депутатов выплатить гр. Ивашину Владимиру Владимировичу денежную компенсацию в десятикратном размере заработной платы за незаконно изъятое в 1933 году имущество у его отца Ивашина Владимира Степановича.*

*Выплату произвести за счет колхоза, на территории которого находится деревня Скворцы Дзержинского района Минской области.*

*Председатель комиссии (подпись) К. Хвенько”.*

P.P.S.

У канцы 1936 г. невылечна хворага на сухоты Уладзіміра Івашына (тры гады выграбаў вядром прыбіральні) выпусцяць з «будоўлі веку» — Беламорска-Балтыйскага канала (канцлагера, дзе загінула некалькі соцень тысяч вязняў) паміраць дадому. Але памерці ў сваёй хаце не далі — у памежнай зоне ворагам народа, нават і паўмёртвым, жыць забаранялася. І Уладзімір Івашын хаваўся, жыў у падпаветцы. Там праз некалькі месяцаў і памёр.

Амаль у гэты самы час у далёкай Сібіры вялі на расстрэл любімага ім Кастуся...

---

[1] **ЮРЭВІЧ А.,** год, месца нараджэння і смерці, імя і імя па бацьку невядомы. У канцы 1920-х — пачатку 1930-х вучыўся ў МБПТ. Верагодна, не быў рэпрэсаваны.

[2] **БРЫЦЬКА Сяргей,** год, месца нараджэння і смерці, імя па бацьку невядомы. У канцы 1920-х — пачатку 1930-х вучыўся ў МБПТ. Верагодна, не быў рэпрэсаваны.

[3] **ВУС Я.,** год, месца нараджэння і смерці, імя і імя па бацьку невядомы. У канцы 1920-х — пачатку 1930-х вучыўся ў МБПТ. Верагодна, не быў рэпрэсаваны.

[4] **ПАНЧ (**сапр.: **Панчанка) Пётр Іосіфавіч** [22.6(4.7).1891, Валкі, цяпер Харкаўскай вобл., Украіна — 1.12.1978, Кіеў], украінскі пісьменнік. Падрабязней гл: http://uk.wikipedia.org.

[5] **АЗГУР Заір Ісакавіч** [15.1.1908, в. Маўчаны, цяпер Сенненскі р-н Віцебскай вобл. — 18.2.1995, Мінск], бел. мастак, скульптар, Народны мастак БССР (1944), Народны мастак СССР (1973), член Акадэміі мастацтва СССР (1958), Герой Сацыялістычнай Працы (1978).

[6] **БАБРОВІЧ *Лявон Андрэевіч*** [1904, в. Мацкі Пастаўскага пав. Віленскай губ. — 21.5.1934, Мінск, турма НКВД), гісторык, публіцыст. У 1923 уступіў у КПЗБ**.** У 1932 скончыў аспірантуру БелАН, працаваў старшым навуковым супрацоўнікам у Камісіі па вывучэнні Зах. Беларусі. Займаўся гісторыяй мяст. Койданава і Койданаўшчыны, а таксама БСРГ; аўтар кніг на гэтыя тэмы. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 26.9.1933 у Мінску па адрасе: вул. Ленінская, д. 29/35, кв. 49**.** 9.1.1934 калегіяй АДПУ СССР асуджаны да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 16.8.1956. Асабовая справа Б. № 10182-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

[7] **ВЕРАМЕЙ-ПАБЯДЗІНСКІ *Мікалай Сцяпанавіч*** [канспіратыўны псеўданім: Пабядзінскі; 1898, в. Кавальцы Віленскай губ., цяпер Маладзечанскі р-н Мінскай вобл. — 22.10.1937, Хабараўскі край], грамадска-паліт. дзеяч, публіцыст. Вучыўся ў Невельскай настаўніцкай семінарыі. Працаваў настаўнікам на Маладзечаншчыне. У 1919 уступіў у Камуністычную рабочую партыю Польшчы (КРПП); з 1922 член Беларускай рэвалюцыйнай арганізацыі; з 1923 член КПЗБ. У 1922 выехаў на вучобу ў Чэхаславакію; у 1929 скончыў Пражскі электратэхнічны інстытут. Вярнуўся ў Зах. Беларусь. Удзельнічаў у падрыхтоўцы выбараў у сейм, друкаваў улёткі і іншую нелегальную літаратуру; арганізоўваў бел. школы. Фактычна знаходзіўся на нелегальным становішчы. У 1930 перапраўлены ў СССР. У 1930 арганізатар і дырэктар Энергетычнага інстытута ў Мінску. З 1931 у Маскве — у польскай секцыі Камінтэрна. Прозвішча «Пабядзінскі» нададзена вясною 1931 з канспіратыўных меркаванняў. Падчас арышту нам. дырэктара Мінскага політэхнічнага інстытута. Арыштаваны 16.8.1933 у Мінску па адрасе: вул. Шырокая, д. 28/4, кв. 2. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 9.1.1934 як «кіраўнік контррэвалюцыйнай арганізацыі БНЦ» да 10 гадоў ППК. Этапаваны ў Хабараўскі край (Арцёмаўск). 10.10.1937 камісіяй НКВД і пракуратурай СССР асуджаны да ВМП. Расстраляны ў канцлагеры. Па першай справе (№ 10182-с, захоўваецца з фотаздымкам у архіве КДБ Беларусі) рэабілітаваны 16.8.1956, па другой 18.4.1956.

[8] **ВЕЧАР *Алесь*** [сапр.: Аляксандр Сцяпанавіч; 12(25).3.1905, в. Машчыцы Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Слуцкі р-н Мінскай вобл. — 4.4.1985, Мінск], паэт, біёлаг. Пачатковую адукацыю атрымаў у Слуцку. У 1923 паступіў у Слуцкі сельгастэхнікум. У 1925—29 студэнт агранамічнага ф-та Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі (Горкі). Першы верш апублікаваў у 1926 у час. «Аршанскі маладняк».

*«А.Вечар закранае тую тэму, што навука дапамагае чалавеку вызначыць сваё месца ў жыцці і ў змаганні. Ва ўсіх яго вершах, амаль выключна сацыяльныя матывы… Любіць паэт пісаць аб пераломе ў жыцці вёскі, ён выяўляе імкненне да машынізацыі сельскае гаспадаркі… Адчуванне хараства, імкненне да яго, выяўленне яго ўжыцці і ў поэтычнай творчасці,*

*культ прыроды як крыніцы, з якой можна піць асалоду, — уласцівыя Вечару рысы. Яшчэ адзін яго матыў — каханне. Яно ў яго заўсёды бадзёрае, мажорнае. У форме ён імкнецца да навізны, але дае зразумелую масам форму»,* — пісаў аб яго творчасці М.Гарэцкі.



Вечар А. 1928 г.

Быў адным з кіраўнікоў Аршанскай філіі «Маладняка», у 1928—30 узначальваў Мінскую філію БелАПП. Першую кніжку вершаў апублікаваў у 1930. У 1930—31 працаваў выкладчыкам у Гарадоцкім тэхнікуме механізацыі сельскай гаспадаркі. У 1931 паводле абвінавачання ў прыналежнасці да кулацкай сям'і выключаны з КП(б)Б. У пошуках працы выехаў за межы Беларусі. У 1932—33 аграхімік Сочынскай заалагічнай доследнай станцыі. У 1933 вярнуўся ў Беларусь. Паводле сведчання С.Кандыбовіча, у 1933 быў арыштаваны, але неўзабаве вызвалены. З 1933 працаваў у НДІ харчовай прамысловасці БССР. З 1937 у Інстытуце харчовай прамысловасці ў Краснадары. З 1959 у Інстытуце біялогіі АН БССР, з 1970 у Інстытуце эксперыментальнай батанікі АН БССР. Доктар біялагічных навук, прафесар (1951). Акадэмік АН БССР (1966). Заслужаны дзеяч навукі і тэхнікі Беларусі (1975). Член СП Беларусі з 1978.

9 **ВІТКОЎСКІ Іван Антонавіч** [20.4(2.5).1888, в. Чэрчыцы Аршанскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Шумілінскі р-н Віцебскай вобл. — 27.12.1937, Мінск, НКВД], гісторык. У 1912 скончыў Пецярбургскую каталіцкую духоўную семінарыю, 2 курсы Петраградскай духоўнай акадэміі (1914). З канца 1916 вікарый у Мазыры. Пазбаўлены духоўнага сану ў 1918. Пераехаў у Растоў-на-Доне, дзе ў гімназіі выкладаў лацінскую мову, гісторыю і псіхалогію. У 1919 добраахвотнікам пайшоў у Чырвоную Армію; у 1920 паранены. У ВКП(б) з 1920. У 1921 вярнуўся на Радзіму; працаваў у савецкіх і

партыйных органах у Оршы і Сянно, прарэктарам Віцебскага ветэрынарнага інстытута. З 1925 у Мінску, выкладчык Камуністычнага ун-та, нам. загадчыка польскага аддзела Інбелкульта, нам. дырэктара, з 1932 дырэктар Інстытута польскай пралетарскай культуры БелАН. Адначасова загадчык кафедры гісторыі МВПІ. Прафесар з 1932. Вывучаў паўстанне 1863—64, сувязі паміж рэвалюцыйнымі рухамі Беларусі, Польшчы, Расіі. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 26.7.1933 у пас. Іскра Мінскага (?) р-на. Асуджаны 27.2.1934 як «член ПАВ» і за «антысавецкую нацыяналістычную дзейнасць» да 3 гадоў ППК. Этапаваны ў Сібірскі канцлагер АДПУ Новасібірскай вобл. (Марыінск). Пасля вызвалення жыў у Ленінградскай вобл. (Баравічы), працаваў рахункаводам і выкладаў лацінскую мову. Зноў арыштаваны 22.2.1937 па справе «Польскай вайсковай арганізацыі». Этапаваны ў Мінск, дзе прыгавораны да ВМП і расстраляны. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 29.5.1959. Асабовая справа В. № 14225-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

[10] **ГАЙКА Сяргей Андрэевіч** [1912, в. Ясвілы Гродзенскай губ. — 11.5.1989, Сібір], стыльрэдактар. У пачатку 1930-х г. вучыўся ў МБПТ разам з Л.Калюгам, Л.Мараковым (брат В.Маракова), С.Астрэйкам, У.Дудзіцкім, М.Кавылём, Ф.Гінтаўтам, У.Сядурам. Пасля сканчэння працаваў у бел. перыядычных выданнях у Мінску. Арыштаваны ДПУ БССР 25.2.1933 па справе «Беларускай Народнай Грамады». Асуджаны 10.8.1933 як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі» да 2 гадоў пазбаўлення волі. Сасланы ў Сібір, дзе і застаўся пасля вызвалення. У 1980-я г. перапісваўся з Я.Брылём. Усё жыццё збіраў кнігі і пакінуў пасля сябе вялікую бібліятэку, якую сваякі пасля яго смерці спалілі. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 24.8.1956. Асабовая справа Г. № 14618-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

[11] **ГАНЧАРЫК Міхаіл Мікалаевіч** [12(24).11.1899, в. Кляннік Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер Смалявіцкі р-н Мінскай вобл. — 11.4.1986, Мінск], вучоны-біёлаг, пісьменнік. У 1914 скончыў Ігуменскае пачатковае вучылішча. Першыя вершы апублікаваны ў 1914 у газ. «Наша ніва». У 1917—24 вучыўся ў Горы-Горацкім земляробчым інстытуце, дзе ўзначальваў Беларускую секцыю студэнтаў. У 1925—28 кіраўнік Аршанскай філіі «Маладняка». Выступаў з літаратурна-крытычнымі артыкуламі і рэцэнзіямі. Друкаваўся ў газ. «Вольная Беларусь», «Беларусь», час. «Аршанскі маладняк», «Рунь», «Зоркі». У 1924—29 працаваў у Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі (БСГА). У 1927 уступіў у ВКП(б). З 1929 працаваў у Інстытуце біялогіі БелАН, з 1931 нам. дырэктара, в.а. дырэктара. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 14.9.1933 у Мінску па адрасе: вул. Ленінская, д. 29/35, кв. 49а. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 9.1.1934 як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі БНЦ» да 10 гадоў ППК. Этапаваны ў Байкала-Амурскі канцлагер (г. Свабодны,

цяпер Амурская вобл.). З мая 1938 пакаранне адбываў, верагодна, у Амурскім чыгуначным канцлагеры, пасля у Свабодненскім (як і Амурскі, знаходзіўся побач з расфарміраваным Байкала-Амурскім) альбо Ніжне-Амурскім лагеры. Пасля вызвалення (8.1.1947) старшы навуковы супрацоўнік Арлоўскай доследнай станцыі. Арыштаваны 15.2.1949 УДБ па Арлоўскай вобл. Пастановай Асобай нарады ад 18.5.1949 высланы на пасяленне ў Краснаярскі край. У 1949—56 працаваў старшым навуковым супрацоўнікам, дырэктарам Ігарскай доследнай станцыі Інстытута сельскай гаспадаркі Крайняй Поўначы. Знаходзячыся ў высылцы, распрацаваў асновы палярнага земляробства. Вызвалены ў ліп. 1954. З 1956 у БСГА, з 1958 старшы навуковы супрацоўнік Інстытута біялогіі АН БССР, у 1961—86 загадчык аддзела, дырэктар, загадчык лабараторыі Інстытута эксперыментальнай батанікі АН БССР. З 1960 доктар біялагічных навук, прафесар; з 1969 член-карэспандэнт АН БССР; з 1972 заслужаны дзеяч навукі БССР. Аўтар шматлікіх навуковых прац па фізіялогіі і біялогіі раслін. Аўтар кнігі пра прэзідэнта АН БССР В.Купрэвіча «Рэвалюцыянер, арганізатар, вучоны» (1981). Апошнія гады працаваў над кнігай мемуараў, якія не паспеў скончыць. Рэабілітаваны ваенным трыбуналам БВА 18.4.1956. Пахаваны ў Мінску на Паўночных могілках. Асабовая справа Г. № 10182-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.



Ганчарык М. М.

[12] **ГЕСЭН Уладзімір Юльевіч** [1901, Санкт-Пецярбург — ?], гісторык. Працаваў у Інстытуце гісторыі БелАН, выкладаў у МВПІ. Арыштаваны 8.3.1933. Вызвалены з-пад варты 26.3.1933 пад падпіску аб нявыездзе. 9.7.1933 тэрмін знаходжання пад вартай залічаны ў тэрмін пакарання з адменай падпіскі аб нявыездзе. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 9.5.1956.

[13] **ГРЫНЕВІЧ Клім Лазаравіч** [псеўданімы: Быліна; Траўкін; Цюльпан; Шасцёраўскі; 5(18).2.1912, в. Шасцёраўка Клімавіцкага пав.

Магілёўскай губ., цяпер Клімавіцкі р-н Магілёўскай вобл. — 3.3.1941, Балагое Калінінскай вобл., цяпер Цвярская вобл., Расія], паэт. У чэрв. 1929 скончыў (разам з Паўлам Пруднікавым і яго стрыечным братам Алесем Пруднікавым) Мілаславіцкую сямігодку.

З успамінаў П.Пруднікава:

*«Клім Грыневіч… Такі ціхі, невысокага росту, белагаловы і чырванашчокі хлапчук… той, што кожны дзень з самаробнай торбай цераз плячо ходзіць дамоў, у сваю Шасцёраўку… Вершы Клімавы нам спадабаліся. Спадабаўся ён і сам. Мы прапанавалі яму наведваць літаратурны гурток… Крыху пазней наш літаратурны гурток пачаў наведваць і Павел Кавалёў…»*

Першыя вершы з'явіліся ў друку ў 1929. У 1930 стаў студэнтам Рагачоўскага педтэхнікума. У крас. 1931 услед за сваімі аднакласнікамі Пруднікавымі пераязджае ў Мінск. Працаваў карэктарам у друкарні, літсупрацоўнікам газ. «Рабочий», у прафсаюзах. Пачынае актыўна друкавацца, выступае ў клубах, навучальных установах, на радыё. Асноўная творчая тэма вершаў паэта — людзі працы — будаўнікі сацыялізму: маляры, трактарысты, калгаснікі. У 1932 паступіў на творчае аддзяленне літаратурнага ф-та МВПІ. Выходзіць першы (як потым атрымалася, і апошні) зборнік паэта «На бераг». Кніга была прыхільна сустрэта крытыкай. Заўважыў яе і А.Куляшоў. Арыштаваны 16.3.1933. У Мінскай унутранай турме ён трапляе ў камеру разам з З.Віталіным. Асуджаны 10.8.1933 да двух гадоў адміністрацыйнай высылкі. Знаходзіўся ў Сары-Атачы Паўднёва-Казахстанскай вобл. У Казахстане К.Грыневіч разам з іншым ссыльным, Сцяпанам Ліхадзіеўскім працуе настаўнікам. У 1935 г. К.Грыневіча прызываюць у Чырвоную армію. Пасля сканчэння службы вярнуўся ў Сары-Атач. Пераехаў у Балагое. Настаўнічаў; у 1937—41 завочна вучыўся ў Ленінградскім педінстытуце. Памёр ад сухотаў. Па сведчанні П.Пруднікава, «памёр паэт літаральна за настаўніцкім сталом у час урока». Вершы апошніх гадоў жыцця не захаваліся.

14 **ДВАРЧАНІН Ігнат Сымонавіч** [27.5(8.6).1895, в. Погіры Слонімскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Дзятлаўскі р-н Гродзенскай вобл. — 8.12.1937, Ленінградская вобл., НКВД], паэт, літаратуразнавец, паліт. і культурны дзеяч. Брат Іларыёна Дварчаніна. У 1912 здаў экзамены на званне народнага настаўніка. Працаваў на Слонімшчыне. У 1914—17 на вайсковай службе, падпаручнік рускай арміі, член партыі эсэраў. Стаў членам БСГ. Першыя вершы надрукаваў у 1917. Удзельнічаў у падрыхтоўцы Усебеларускага кангрэса 1917. Арыштаваны 18.12.1917. У 1918 па запрашэнні А.Чарвякова працаваў у Беларускім нацыянальным камісарыяце ў Маскве. У 1919—20 вёў культурна-асветную работу на Дзятлаўшчыне; інтэрнаваны польскімі ўладамі ў Беластоцкі лагер, адкуль уцёк. З 1921 у Даўгаўпілсе, удзельнічаў у бел. культурнай працы. Пераехаў у Прагу, у 1925 скончыў Карлаў ун-т са званнем доктара філасофіі (дысертацыя «Францішак Скарына як культурны дзеяч і гуманіст на беларускай ніве»). Публікаваўся ў

выданнях «Перавясла», «Студэнцкая думка», «Прамень», «Наш сцяг», «Наш шлях» і інш. З 1926 у Вільні; выкладчык бел. гімназіі, член Галоўнай управы ТБШ (1926—30). Супрацоўнічаў у час. «Маланка», «Родныя гоні». У 1927 уклаў і выдаў «Хрэстаматыю новай беларускай літаратуры (ад 1905 году)». У 1928 абраны дэпутатам сейма; адзін з кіраўнікоў арганізацыі «Змаганне» (1928—30). У 1930 арыштаваны польскімі ўладамі і асуджаны на 8 гадоў турмы. З 1932 у выніку абмену палітзняволеных у Мінску. Працаваў у Камісіі па вывучэнні Зах. Беларусі БелАН; выконваў абавязкі дырэктара Інстытута мовазнаўства. Арыштаваны 16.8.1933 у Мінску па адрасе: зав. Падгорны, д. 4/1. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 9.1.1934 як «кіраўнік контррэвалюцыйнай арганізацыі БНЦ» да ВМП. Прысуд заменены на 10 гадоў ППК. Этапаваны ў Салавецкі канцлагер НКВД Архангельскай вобл., але пакаранне адбываў у Беламорска-Балтыйскім канцлагеры. 25.11.1937 тройкай НКВД па Ленінградскай вобл. асуджаны да ВМП. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 18.4.1956. Асабовая справа Д. № 10182-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі. У 1983 у Погірах устаноўлена мемарыяльная дошка, у 1989 у Дзятлаве адкрыты помнік Д.



Дварчанін І. С.

[15] **ДУРНАВО Мікалай Мікалаевіч** [4.11.1876, Масква — 27.10.1937, Салаўкі, НКВД], мовазнавец. Скончыў Маскоўскі ун-т. З 1918 прафесар Саратаўскага і Маскоўскага ун-таў. Член-карэспандэнт АН СССР з 1924. У 1924—27 жыў у Чэхаславакіі. З 1928 у Мінску. Супрацоўнік Інбелкульта, потым БелАН; прафесар БДУ. Даследаваў славянскае мовазнаўства, дыялекталогію і гісторыю рускай мовы. Уклад у бел. мовазнаўства ўнёс, вывучаючы Супрасльскі рукапіс (1926), напісаўшы артыкул «Увагі да беларускай фанетыкі» (1929). У 1929 пазбаўлены звання акадэміка БелАН. Арыштаваны 28.12.1933; паводле пастановы Калегіі АДПУ СССР ад 29.3.1934 асуджаны на 10 гадоў лагераў. Тэрмін адбываў, верагодна, у Беламорска-Балтыйскім канцлагеры НКВД Карэла-Фінскай АССР. Паўторна арыштаваны

ў 1937 і расстраляны. У 1938 пасмяротна пазбаўлены звання члена-карэспандэнта АН СССР. Рэабілітаваны 26.10.1964. Адноўлены ў званні акадэміка АН БССР у 1978, у званні члена-карэспандэнта АН СССР у 1990.



Дурнаво М. М.

16 **ЖУРЫК Сцяпан Іванавіч** [12(24).8.1898, в. Крупка Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер Пухавіцкі р-н Мінскай вобл. — 25.11.1938], дзеяч бел. маладзёжнага руху, вучоны-аграном, публіцыст. Вучыўся ў Мар'інагорскім вучылішчы. У 1919—20 працаваў у Наркамаце земляробства. У 1919—21 старшыня Беларускай секцыі студэнтаў Горацкага сельскагаспадарчага інстытута; скончыў інстытут у 1924. На пачатку 1920-х г. адзін з ідэолагаў бел. маладзёжнага і студэнцкага нацыянальнага руху; па гэтай тэме выступаў у друку. З 1925 асістэнт Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі; член-карэспандэнт Інбелкульта. З 1928 дырэктар доследнай станцыі ў Малой Сляпянцы пад Мінскам. У пачатку 1930-х г. прафесар, нам. дырэктара, дырэктар Беларускага навукова-даследчага інстытута свінагадоўлі. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 12.1.1933 у Малой Сляпянцы. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 9.7.1933 як «член антысавецкай шпіёнска-шкодніцкай арганізацыі ў сістэме жывёлагадоўлі» да 10 гадоў пазбаўлення волі. Этапаваны ў адзін з сібірскіх канцлагераў. 2.11.1938 асуджаны ў зняволенні да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 21.8.1956. Групавая справа Ж. і іншых № 10333-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

17 **КАХАНОВІЧ Міхаіл Сілуянавіч** [27.9.1882, в. Вялікія Лукі Навагрудскага пав. Мінскай губ., цяпер Баранавіцкі р-н Брэсцкай вобл. — 17.5.1934, Мінск, турма НКВД], паліт. дзеяч, педагог, рэдактар, публіцыст. З сям'і святара. У 1910 скончыў Харкаўскі ун-т. З лета 1915 жыў у Магілёве,

працаваў выкладчыкам Магілёўскага рэальнага вучылішча. Член Беларускага нацыянальнага камітэта. У 1917 рэдактар газ. «Могилевские известия». Летам 1918 выехаў у Вільню; з 1919 кіраўнік школьнага аддзела Цэнтральнай Беларускай рады Віленшчыны і Гродзеншчыны. У 1919—22 дырэктар Віленскай беларускай гімназіі. Выступаў з публіцыстычнымі артыкуламі ў «Беларускай крыніцы», «Беларускім жыцці», «Беларускіх ведамасцях» і інш. Аўтар успамінаў пра І.Луцкевіча (апублікаваны ў зборніку: «Памяці Івана Луцкевіча. У першыя ўгодкі смерці яго», 1920). У 1922 абраны дэпутатам польскага сейма, член Беларускага пасольскага клуба. Прытрымліваўся прынцыпу беспартыйнасці. З 1925 у БССР. Працаваў у рэдакцыях газ. «Савецкая Беларусь» і час. «Савецкае будаўніцтва»; у выдавецтвах; займаўся перакладамі. Быў жанаты, меў дзіця. Падчас арышту працаваў карэктарам у друкарні імя Сталіна. Арыштаваны 10.8.1933 у Мінску па адрасе: вул. Правіянцкая, д. 20. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 9.1.1934 як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі БНЦ» да ВМП. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 18.4.1956. Асабовая справа К. № 10182-с (спынена 16.8.1956) з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

[18] **МАЦЮКЕВІЧ Іосіф Ігнатавіч** [26.9.1890, в. Гернікі Слонімскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Дзятлаўскі р-н Гродзенскай вобл. — 16.9.1938, Мінск, турма НКВД], лінгвіст. Быў членам партыі левых эсэраў, бел. арганізацыі «Гай» (Адэса). У 1925 уступіў у ВКП(б). Скончыў БДУ. З кастр. 1930 вучоны сакратар, з ліп. намеснік дырэктара Інстытута мовазнаўства БелАН. Прымаў удзел у падрыхтоўцы рэформы бел. правапісу. Арыштаваны 31.10.1933 у Мінску па адрасе: Падгорны зав., д. 4, кв. 1. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 9.1.1934 як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі БНЦ» да 5 гадоў ППК. 2.7.1938 тройкай НКВД прыгавораны да ВМП. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 18.4.1956. Асабовая справа М. № 10182-с (спынена 16.8.1956) з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

[19] **НІКАЛАЕЎ-АСТРАВЕЦКІ Аляксандр Мікалаевіч** [кастр. 1905, в. Валілы Беластоцкага пав. Гродзенскай губ., цяпер Падляшскае ваяв., Польшча — 17.5.1934, Мінск, турма НКВД], журналіст, рэдактар. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Уступіў у КПЗБ (1925), выбраны сакратаром райкама. Апошняя пасада — загадчык аддзела міжнароднай інфармацыі газ. «Звязда». Арыштаваны 12.10.1933 у Мінску па адрасе: вул. Ніжняя Усцінская (?), д. 39а, кв. 1. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 9.1.1934 як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі БНЦ» да ВМП. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 18.4.1956. Асабовая справа Н.-А. № 10182-с (спынена 16.8.1956) з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

[20] **НІКАНОВІЧ Мікола** [Мікалай Уладзіміравіч; 2(15).4.1902, в. Кляннік Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер Смалявіцкі р-н Мінскай вобл. —

кастр. 1944, Чэхаславакія], празаік, перакладчык. Вучыўся ў гімназіі ў Ігумене (цяпер Чэрвень). Удзельнічаў у партызанскай барацьбе супраць польскіх войскаў. Настаўнічаў у роднай вёсцы. Першае апавяданне «Ахвяры цемры» апублікаваў у 1922 у газ. «Савецкая Беларусь»; першы верш у 1925 у час. «Аршанскі маладняк». У 1926 выйшлі зборнікі апавяданняў «Золак» і «Радасць». У 1928 пераехаў у Мінск. Працаваў стыльрэдактарам у газ. «Чырвоная змена», потым у газ. «Звязда». Яго паэма ў прозе «Журавіны» (Беларусь калгасная. 1932. № 8) была абʼяўлена варожай. Суаўтар В.Маракова па некалькіх вершах. Быў весялун і вастраслоў. Маракова за раскідванне ганарарамі называў Грышкам Распуціным, а сябе Мікалаем II.

*"Калі ў гардэробе або ў суседнім пакоі* (Дома пісьменнікаў. — ***Л. М.***) *чуўся рогат, значыць, прыйшоў Мікола Нікановіч. Ён асабліва быў здатны на дасціплы жарт, каламбур, экспромт, на вясёлы, але не злосны розыгрыш. Невысокага росту, шчыгульны і зграбны, у капялюшыку, заліхвацкі ссунутым на адзін бок, у дагледжаным, хоць і не вельмі новым, гарнітуры, пры стракатым гальштуку пад зіхоткім цэлюлоідным каўнерыкам, Нікановіч хутчэй нагадваў артыста. Ён выдатна імітаваў знаёмых. Часам за дзвярыма загаворыць галасамі і інтанацыямі Купалы, Чарота, Хадыкі, асабліва любіў пацяшацца з Сяргея Дарожнага"* (Грахоўскі С. Так і было. Мн., 1986).



Нікановіч М. У. 1928 г.

Арыштаваны ДПУ БССР 4.3.1933 па справе «Беларускай народнай Грамады». На тры гады сасланы на Урал. Працаваў у газ. «Уральский рабочий»; пазней — «Советский Дон». У 1942 мабілізаваны ў армію. У кастр. 1944 падчас баёў на тэрыторыі Чэхаславакіі прапаў без вестак. Рэабілітаваны ў 1956.

[21] **САЛАГУБ Алесь Феафілавіч** [5(18).10.1906, в. Зарудзічы Вілейскага пав. Віленскай губ., цяпер Смаргонскі р-н Гродзенскай вобл. — 17.5.1934, Мінск, НКВД], паэт, публіцыст, літаратуразнавец, мемуарыст.

Пра перыяд жыцця А.Салагуба з 1922 па 1928 г., магчыма, дакладней за ўсіх напісаў М.Гарэцкі:

*"У 1922 г. Салагуб паступіў у 3 клас Віленскае беларускае гімназіі. Скончыў гімназію ў 1927 г. Польская паліцыя часта адрывала яго ад кніжак і кідала ў вастрог.*

*Першага траўня 1924 году ў вёску Зарудзічы налятае паліцыя і арыштоўвае Салагуба пад закідам, што ён у сваім павеце і ў Смаргонях раскідаў комуністычную "бібулу".*

*У дэфэнзыве спачатку дапытваліся досыць ласкава і запрапанавалі зрабіцца провокатарам. Але гэтая пропозыцыя так яго перапалохала, што ён расплакаўся. Тады дэфэнзыўшчык ударыў яго пад бараду так, што ён і слова вымавіць не мог. Нічога яны ад яго не даведаліся. Потым, завеўшы ў падвал, яго білі па вушах, у грудзі і зусім няпрытомнага прымусілі падпісаць пратакол, у якім ён ні слова не цяміў. Калі сядзеў на "Лукішках", добрыя людзі праз сцяну параілі яму адмовіцца ад пратаколу. Сядзеў ён у камэры-адзіночцы. Два месяцы не давалі яму паперы і адбіралі шпільку, калі пісаў на сцяне. Віленскі акруговы суд даў яму два гады крэпасці, абвінавачваючы ў прыналежнасці да КПЗБ.*

*Праз чатыры месяцы яго былі вызвалілі пад заклад (3000 польскіх злотых), потым неўзабаве зноў пасадзілі, зноў выпусцілі пад заклад…*

*У часе стыхійнага росту Беларускай Грамады Салагуб быў актыўным арганізатарам яе гурткоў у сваім павеце. Там яго паліцыя не чапала. Але калі ён перакінуўся на Ашмяншчыну, зараз яго схапілі і ўкінулі ў Стафанаўскі вастрог у Вільні. Там сядзець было горш, чым на Лукішках. Пасадзілі яго ў камеры з "інтэлігэнтамі". Але "інтэлігэнты" гэтыя былі: скарбовыя зладзеі, шпегі, якія сваімі "баданнямі" забівалі людзей насмерць, афіцэры-гвалтаўнікі, якія перабралі крайнюю меру сваімі гвалтамі. Салагуба яны цкавалі, як грамадаўца. Прасядзеў ён там два месяцы, і вельмі яны здаліся яму даўгімі, бо не мог ні з кім словам перакінуцца, хоць вастрог быў бітма-набіты грамадаўцамі і часта ён чуў гукі спеву "Ад веку мы спалі".*

*Вышаўшы з Стафанаўкі Салагуб канчаў ужо гімназію, здаў быў ужо колькі экзаменаў, каб атрымаць матуру (атэстат спеласці), аж зноў яго кідаюць у вастрог на Лукішках. Сядзеў ён гэтым разам дзевяць месяцаў, да вясны 1928 г.*

*Цяпер А.Салагуб — у Мінску, студэнт БДУ".*

18 чэрвеня 1928 г. А.Салагуб разам з іншымі "маладнякоўцамі" — І.Барашкам, В.Мараковым, В.Кавалём, А.Звонакам, М.Лыньковым, М.Нікановічам, А.Моркаўкам, Я.Мазуркевічам — выязджаў на Украіну. У 1929 выдаў зборнік вершаў, якія былі напісаны ў зняволенні. Пасля сканчэння ў 1931 ун-та аспірант Інстытута літаратуры і мастацтва БелАН. *"Ціхі, ветлівы, інтэлігентны, па патрэбе разгаворлівы. Круглатвары,*

*невысокага росту, цёмнавалосы. Заўсёды чыста паголены, акуратна апрануты і абуты, са спакойнай паходкай. Удумлівы і разважлівы, не паспешлівы, але і не марудлівы. Заўсёды хадзіў у акулярах з рагавой аправай і пры гальштуку васількового колеру. Часам апранаў і кашулю, якую вiдаць, вышыла маці пад беларускі арнамент".* (З арт. П.Пруднікава "Такім я ведаў Алеся Салагуба". Спадчына. 1991. № 6).


Салагуб А.

У 1933 у час. «Полымя рэвалюцыі» (№ 1) апублікаваў працу «Мастацкая літаратура «Грамады», дзе прааналізаваў прэсу і літаратуру БСРГ. 16.8.1933 аспірант 3-га курса А.Салагуб быў арыштаваны. 9.1.1934 калегіяй АДПУ СССР прыгавораны да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 18.4.1956.

*«Лейтэнант прывёз Юсце Салагуб даведку аб рэабілітацыі яе сына… Зачытаў… — Памёр у лістападзе 1941… Жанчына горача запратэставала:*

*— Не памёр, а забілі…*

*— Умер, бабушка, — удакладніў пасланец.*

*— Няпраўда, сынок, — прагучаў адказ, — забілі. Забілі…*

*— Сэрца матчына не абманеш, — сказал нехта ў чуткай цішыні, выбіраючыся з хаты…»* (з арт. А.Ліса «Дзе вы, хлопцы, браты песняры?…». Полымя. 1992. № 8).

Сям'я С. (жонка і сын) таксама былі рэпрэсаваны і сасланы на Поўнач. Самы значны твор літаратурнай спадчыны С. — «Лукішскі дзённік», апублікаваны фрагментамі ў 1961.

[22] **БРАНШТЭЙН Якаў Анатольевіч** [10.11.1897, Бельск Гродзенскай губ., цяпер Падляшскае ваяв., Польшча — 29.10.1937, Мінск, НКВД], крытык і літаратуразнавец. З сям'і службоўца. У 1914—18 жыў у Варшаве.

Друкавацца пачаў у 1918. У 1919 пераехаў у Савецкую Расію (Арол). Добраахвотнікам пайшоў у Чырвоную Армію. Пасля дэмабілізацыі з 1921 працаваў у рэдакцыі газ. «Орловская правда». У 1925 скончыў літаратурны ф-т 1-га Маскоўскага ун-та; у 1926—30 вучыўся ў Камуністычнай акадэміі ў Маскве. У 1930—37 навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры і мастацтва АН БССР; з 1932 адначасова прафесар МВПІ. У 1932—37 быў адказным сакратаром СП БССР. Член СП СССР з 1934. Член-карэспандэнт АН БССР з 1936. Як крытык пачаў выступаць з 1925. Прытрымліваўся вульгарна-сацыялагічных пазіцый.

Міхась Лынькоў пісаў (ЛіМ. 1962. 25 снеж.): «*Ён быў пісьменнікам-камуністам, які самаадданa служыў справе нашай партыі. Лепшыя гады свайго юнацтва аддаў ён на барацьбу з ворагамі пралетарскай рэвалюцыі... Ён па праву займаў вядучую ролю ў тагачаснай беларускай крытычнай літаратуры... Ён актыўна змагаецца з праявамі і носьбітамі вульгарнага сацыялагізму ў літаратуры, з рознымі варожымі ўплывамі, у тым ліку з буржуазна-нацыяналістычнымі «тэорыямі»*.

*«Бранштэйн у час сваіх дакладаў так аддаваўся літаратуры, што мы яго іначай не называлі, хоць валасы ў яго былі ўжо сівыя, як Яшка»* (З аўтабіяграфіі Я. Ермаловіча. 1967 г.).



Бранштэйн Я. А.

Арыштаваны 6.6.1937 у Мінску па адрасе: 2-і Апанскі зав., 4б, кв. 2. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 28.10.1937 як «член трацкісцкай арганізацыі і арганізатар тэрарыстычнай групоўкі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 27.6.1956. Асабовая справа Б. № 6889-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.